# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Наклад 34.460
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 2 362 441

Аўторак, 22 ліпеня 1997 г. № 78 Кошт свабодны


## Кіраўніка мытнага камітэта адпраўляюць у адстаўку

**У мінулую суботу прэзідэнт Лукашэнка правёў нараду, прысвечаную працы мытнага камітэта. Размова адбылася вельмі жорсткая і прывяла да публічнай заявы прэзідэнта аб адстаўцы старшыні мытнага камітэта Пятра Крэчкі.**

Хаця ў панядзелак сп.Крэчка яшчэ працаваў у сваім кабінеце, падпісваў паперы і праводзіў нарады з намеснікамі, перспектыву ягонага сыходу ў камітэце ўжо ніхто не аспрэчваў. Як падцвердзіў у другой палове дня кіраўнік інфармацыйнага ўпраўлення адміністрацыі прэзідэнта Міхаіл Падгайны, адпаведны ўказ сапраўды рыхтуецца. *«Афіцыйная інфармацыя аб указе хутчэй за ўсё з'явіцца на працягу дня»*, — паведаміў высокі чыноўнік.

Што ж тычыцца прычынаў адстаўкі, то аб іх пакуль можна толькі здагадвацца. Не выключана, што зняцце з пасады будзе абстаўлена чарговым «выкрыццём карупцыянераў». Ва ўсякім разе, узгадваючы нараду, у адміністрацыі прэзідэнта цытуюць своеасаблівы афарызм: *«Кепскі той мытнік, які за паўгода працы не набыў машыну ці дачу»*. Сам Пётр Крэчка каментаваць звесткі аб магчымай адстаўцы адмовіўся.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

## Ільготам прыйшоў канец

**З 1 ліпеня міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі пачынае выконваць лукашэнкаўскі ўказ ад 1 верасня 1995 года. Згодна з ім, рэабілітаваныя ахвяры палітычных рэпрэсій, непрацуючыя ветэраны працы і Узброеных Сіл, а таксама ліквідатары-чарнобыльцы пазбаўляюцца льготаў пры аплаце за кватэру і камунальныя паслугі.**

Раней гэтая катэгорыя грамадзянаў аплочвала штомесяц толькі палову сумы. Цяпер давядзецца разлічвацца поўнасцю. У міністэрстве жыллёва-камунальнай гаспадаркі спасылаюцца на катастрафічную нястачу сродкаў на ўтрыманне сваіх службаў.

Як сказалі ў міністэрстве па надзвычайных сітуацыях, прэзідэнцкі ўказ закране амаль 19 тысячаў удзельнікаў ліквідацыі наступстваў чарнобыльскай катастрофы.

Ліквідуючы льготы, мінжылкамунгас спрабуе за кошт гэтага стрымаць агульны рост кватрплаты. Па неафіцыйных дадзеных, плануецца яе павышэнне на 46 працэнтаў.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## Бабруйскі абутак для «форда»

**Бабруйскі камбінат «Белшына» мае намер стварыць супольныя прадпрыемствы з найвядомым сусветным канцэрнам «Кантыненталь».**

Нядаўна прайшлі папярэднія перамовы прадстаўнікоў «Белшыны» і канцэрна «Кантыненталь», на якіх гаворка ішла аб падрыхтоўцы да стварэння СП. Прадукцыю новага супольнага прадпрыемства, калі яно будзе створанае, мяркуецца пастаўляць супольнаму прадпрыемству «Форд-Юніон», якое плануе на 30 ліпеня афіцыйны запуск завода па зборцы аўтамабіляў маркі *Ford*.

**Ян ГАЛЕВІЧ**

## Кароль – голы!

*Ліцэісты ўбачылі гэта — і трапілі пад кулакі*



*Хлопцы ў цывільным, якія хапалі і арыштоўвалі ўдзельнікаў «шэсця з глобусамі» ў мінулы чацвер, відавочна валодалі прафесійнымі прыёмамі сілавога затрымання небяспечных злачынцаў. І яны груба выкарыстоўвалі гэтыя прыёмы супраць бацькоў ліцэістаў.*

**ПАДРАБЯЗНАСЦІ**

Тое, што зноў пачало адбывацца на вуліцах Мінска, не можа не занепакоіць нават людзей, далёкіх ад палітыкі. Калі ўдзельнікаў масавых акцый пратэсту хапае міліцыя — гэта яшчэ неяк можна зразумець і фармальна патлумачыць: маўляў, міліцыя вымушаная «трымаць парадак». Але калі на вачах у міліцыянтаў людзей груба і па-зверску хапаюць нейкія невядомыя людзі ў цывільным — гэта ўжо сапраўды прававы тупік. Выснова з такой сітуацыі адзіная: у краіне ўжо не існуе Закона.

Здымак, які вы бачыце побач у СВАБОДЗЕ, быў зроблены ў мінулы чацвер на вул.Камсамольскай. Гэта якраз той момант, калі міліцыянты з Ленінскага РАУС і іхнія «добраахвотныя памагатыя» пачалі хапаць удзельнікаў шэсця з падручнікамі і глобусамі. Бацькі ліцэістаў разам з дзецьмі і настаўнікамі проста ішлі па тратуары, трымаючы ў руках прылады для навучання. Гэта, канечне, дэманстрацыя нязгоды, пратэсту, але пратэсту мірнага, маўклівага, які нікому не пагражаў і не перашкаджаў. Такі пратэст нават немагчыма «падвярстаць» пад пяты прэзідэнцкі дэкрэт, бо ўдзельнікі не трымалі ў руках «незарэгістраванай» сімволікі, не мелі плакатаў з нават самымі нявіннымі лозунгамі кшталту «Зямлю — сялянам, фабрыкі — рабочым, ліцэй — ліцэістам!»

Нічога гэтага не было, але ўсё роўна ўладам падалося, што парадак парушаны. Як сцвярджаюць сведкі падзеяў, аддаваў каманду на затрыманне начальнік Ленінскага РАУС Васіль Кілько. А вось выконвалі загады нават не падначаленыя яму міліцыянты, а маладыя хлопцы ў цывільным, якія паводзілі сябе быццам баевікі. На здымку добра бачна некалькі такіх «баевікоў», якія распраўляюцца з затрыманым Алесем Станішэўскім, а міліцыянт маёр Гушчын з гарадскога аддзела міліцыі (так ён прадстаўляўся) спакойна назірае за гэтым беззаконнем. Больш за тое, потым маёр Гушчын пайшоў у Ленінскі суд і даваў там звычайныя для такіх выпадкаў паказанні супраць затрыманых: як міліцыянты папярэджвалі ўдзельнікаў акцыі, як ветліва запрашалі іх прайсці ў адзяленне, але тыя супраціўляліся і *«хапаліся за міліцэйскую вопратку»*. Па словах другога сведкі, капітана міліцыі А.Карацюпы, быццам бы хапаў міліцыянтаў за форму і Алесь Станішэўскі. Расплюшчыце вочы, «таварыш» капітан! Няўжо міліцыянтам пачалі выдаваць у якасці службовай формы спартовыя касцюмы?!! А суд вынес усім чатыром затрыманым папярэджанні.

Дарэчы, згодна з дэкрэтам № 5 міліцыянты фактычна не нясуць ніякай адказнасці за дачу лжывых паказанняў. Ці не таму яны на яго так часта спасылаюцца?

У расійскай паэткі і спявачкі Веранікі Долінай ёсць песня пра «обериутов» (так называлі сябе сябры гуртка паэтаў-абсурдыстаў з Ленінграда, растраляныя падчас сталінскіх рэпрэсіяў). «Где голы короли, — опасны дети», — пяецца ў той песні, бо «покуда голый зад людей дурачит, ребенок невпопад заплачет. Покуда твердый лоб людей морочит, ребенок все поймет — и напророчит».

Сёння «стражы парадку» толькі пакрываюць беззаконні, якія чыніць рэжым, маскіруюць голага караля — што і ўбачылі дзеці з Беларускага ліцэя. А далей усё пайшло па адпрацаваным сцэнарыі вулічных пабоішчаў — гэта нашыя сілавыя органы навучыліся рабіць адмыслова.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## «Газпром» перакрывае краны Беларусі

**Кіраўніцтва расійскага газавага канцэрна «Газпром» заявіла, што мае намер скараціць на 50% пастаўкі ў Беларусь прыроднага газу.**

Прычына падобнага кроку — вялікая запазычанасць аб'яднання «Белтрансгаз» і невыкананне ўмоваў заключанага з АТ «Газпром» кантракта. Па некаторых звестках, на пачатак ліпеня Беларусь аплаціла толькі 53% расійскага газу, які пастаўляўся ёй у гэтым годзе. Сума запазычанасці складае каля 500 мільёнаў долараў ЗША.

Кіраўнік «Газпрома» Рэм Вяхіраў заявіў, у прыватнасці, што структура, якую ён узначальвае, з'яўляецца недзяржаўнай, а таму, незалежна ад расійска-беларускіх палітычных адносінаў, хоча своечасова атрымліваць аплату за пастаўлены газ.

*БелаПАН*

## Суддзі ўзбройваюцца

**На загад прэзідэнта Лукашэнкі суддзям пачалі выдаваць службовую газавую зброю.**

Служкі Феміды атрымваюць у сваё распараджэнне газавыя пісталеты. У нашай краіне каля 900 суддзяў розных узроўняў, і можна сцвярджаць, што на гэта спатрэбілася немалая партыя зброі. У міністэрстве юстыцыі тлумачаць, што прыйшоў час такім чынам бараніць «судзейскую недатыкальнасць», бо напады на суддзяў пачасціліся. Газавыя пісталеты выдаюць і высокапастаўленым чыноўнікам міністэрства юстыцыі.

Астатнія грамадзяне маюць шанц дзеля ўласнай бяспекі набыць газавыя пісталеты ў краме — па цане ад 1,5 да 10 мільёнаў рублёў. Адпаведныя дазволы выдаюць органы ўнутраных справаў.

**А.Д.**

## Далей няма куды

*Кангрэс дэмакратычных прафсаюзаў дайшоў да вышэйшай судовай інстанцыі*

Учора ў Вярхоўным Судзе пачаўся разгляд скаргі Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў супраць міністэрства юстыцыі.

Мінюстаўскія чыноўнікі ўжо два гады адмаўляюцца рэгістраваць Кангрэс на падставе таго, што дзейнасць аднаго з сузаснавальнікаў гэтай арганізацыі — Свабоднага прафсаюза Беларусі — быццам бы прыпыненая ўказам Лукашэнкі.

Той факт, што Канстытуцыйны суд прызнаў гэты ўказ прэзідэнта незаконным і Свабодны прафсаюз прайшоў у лютым 1996 г. перарэгістрацыю ў мінюсце, пад увагу не бярэцца. Прафсаюзнае кіраўніцтва падавалі скаргу ў мінскі гарадскі суд, але той пакінуў рашэнне мінюста без зменаў. І вось справа дайшла да Вярхоўнага Суда.

Учора суддзя Мікалай Бабкоў заслухаў аргументы старшыні Кангрэса Генадзя Быкава і шэрагу прафсаюзных актывістаў. На момант здачы нумару ў друк Вярхоўны Суд працягваў паседжанне.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Ліцэісты і бацькі здавацца не збіраюцца

**Учора абаронцы Беларускага гуманітарнага ліцэя працягвалі мірныя акцыі пратэсту супраць перадачы іхняга будынка ведамству Івана Ціцянкова.**

Бацькі і навучэнцы стаялі на Кастрычніцкай плошчы сталіцы з ранейшымі «гуманітарна-ліцэйскімі» лозунгамі па-беларуску і па-англійску.

Акрамя таго, бацькі і вучні пачалі збор подпісаў у падтрымку сваіх патрабаванняў: да ўсіх, хто ішоў па праспекце Скарыны, яны звярталіся з просьбай паставіць свой аўтограф. Ахвотных падтрымаць ліцэістаў было шмат. Калі макет нумара быў ужо ў друкарні, ліцэісты зрабілі перапынак.

У другі раз удзельнікі імправізаванага пікету планавалі сабрацца на гэтым жа месцы каля 17 гадзін і скончыць у гэты дзень акцыю агульным зборам у будынку ліцэя а 19 гадзіне. Чакаем, што сёння прыйдзе нехта з адміністрацыі прэзідэнта, каб пагаварыць з намі па-людску, без бойкі і арыштаў, паведаміў адзін з пікетчыкаў.

**А.В.**

## Моладзь рушыла водным маршам за незалежнасць

**Водны заплыў па Дняпры, прысвечаны Дню Незалежнасці 27 ліпеня, пачалі ўчора актывісты маладзёжнай фракцыі Аб'яднанай грамадзянскай партыі («Грамадзянскі форум»).**

За пяць дзён маладыя лібералы на адмысловым вайсковым плыце збіраюцца адолець 350 кіламетраў ад мястэчка Дуброўна ў Віцебскай вобласці да Лоева, дзе ў Дняпро ўпадае Сож. Яны таксама плануюць правесці шэраг сустрэч з людзьмі ў Оршы, Копыле, Шклове, Магілёве, Быхаве, Рагачове, Жлобіне і Рэчыцы, ды раздаць ім некалькі тысяч экземпляраў незалежных газет. Такім чынам удзельнікі заплыву спадзяюцца данесці да жыхароў правінцыі аб'ектыўную інфармацыю аб палітычных падзеях у краіне.

Як кажа сакратар маладзёжнай фракцыі АГП Сяргей Казлоўскі, у пятым лукашэнкаўскім дэкрэце не прадугледжаная адказнасці за «рух групы грамадзян па вадзе». Адпаведна, водны заплыў не можа разглядацца ўладамі як несанкцыянаванае шэсце, таму «абяднана-дэмакратычная» моладзь падчас акцыі вырашыла абраць менавіта такую незвычайную форму «хады ў народ».

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# Людзі гінуць на працы

**У Магілёўскай вобласці з пачатку года здарылася больш няшчасных выпадкаў, чым у іншых абласцях.**

Згодна з інфармацыяй дзяржаўнай інспекцыі па ахове працы, у вобласці ажно 17% людзей, якія загінулі ў першым паўгоддзі, пайшлі з жыцця на працы. Прычым калі летась на Магілёўшчыне за такі ж перыяд было 8 смяротных выпадкаў на вытворчасці, то сёлета — 25. Як адзначае начальнік абласной інспекцыі В.Дзем'янкоў, людзі гінуць галоўным чынам на сельскагаспадарчых працах. Асноўную прычыну ён бачыць у тым, што калгасы і саўгасы злачынна эканомяць на спецыялістах па ахове працы. Акрамя таго, ушчэнт зношаная, састарэлая тэхніка з памочніка чалавека ператвараецца ў забойцу.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

# За аварыю пад Кобрынам пакаралі Кобрынскага

**З тых школьнікаў Гомельшчыны, што адправіліся на аздараўленне ў Бельгію і трапілі ў аўтааварыю пад Кобрынам 1 ліпеня, большасць з Рэчыцкага раёна. З 62 дзяцей, якія атрымалі траўмы і пераломы, 35 з Рэчыцы і раёна, як і двое загінуўшых.**

Спачуванні сем'ям загінуўшых і пацярпелых выказалі некаторыя нямецкія дабрачынныя арганізацыі, а таксама бельгійскі фонд «Фламандцы дапамагаюць дзецям Чарнобыля», які вось ужо 6 гадоў займаецца аздараўленнем дзяцей Палесся. Члены гэтага фонда пажадалі пабываць на месцы трагічнага здарэння і наведаць Рэчыцу.

А як жа было ўспрынята трагічнае здарэнне рэчыцкімі ўладамі? На жаль, маральнымі іх дзеянні не назавеш. У дні смутку, як і ў сталіцы, на вуліцах Рэчыцы грымела свята. За песнямі і скокамі ніхто і не згадаў пра трагедыю.

Рана ці позна будуць названыя ўсе вінаватыя ў тым, што калона ішла без суправаджэння міліцыі, што ў крытычны момант у кіраўнікоў, не аказалася нават спісу дзяцей, якія ехалі ў нешчаслівым аўтобусе, што не было парадку ў салоне. А пакуль пакаранні на абласным узроўні скончыліся тым, што зняты з пасады намеснік мэра Рэчыцы В.Клейман і атрымаў вымову начальнік абласнога ўпраўлення адукацыі М.Кобрынскі.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

*АФІЦЫЙНА*

# Два гады абавязковай працы

**Выпускнікі вышэйшых і сярэдніх спецыяльных установаў павінны будуць адпрацаваць два гады там, куды іх пашле дзяржава.**

Прынятае Палажэнне аб размеркаванні выпускнікоў дакладна рэгламентуе ўсе дэталі працаўладкавання маладых людзей, што атрымалі дыпломы. Наймальнікам — прычым незалежна ад формы ўласнасці — катэгарычна забараняецца прымаць на работу асобаў без пасведчання аб накіраванні на работу або без даведкі, што ім дазволена самастойнае працаўладкаванне.

Асобы, якія навучаліся ў дзяржаўных установах за кошт пазабюджэтных сродкаў (гэта значыць калі яны плацілі за навучанне самі або іхнюю вучобу аплочваў нехта іншы) маюць выбар: або паехаць па размеркаванні, або атрымаць «вольную». Цікавая дэталь: час службы ва Узброеных Сілах залічваецца ў тэрмін абавязковай адпрацоўкі, таму хлопцы, якія пойдуць па заканчэнні ВНУ ў войска, не мусяць працаваць поўны двухгадовы тэрмін. Можа здарыцца і так, што ніхто не запатрабуе спецыялістаў пэўнай кваліфікацыі. Тады камісія па размеркаванні адпускае ўчарашняга студэнта ў вольнае плаванне па рынку працы — можа, пашанцуе.

Палажэнне прадугледжвае і некаторыя льготы і паслабленні. Напрыклад, мужа і жонку, якія заканчваюць вучобу адначасова, павінны размеркаваць у адзін населены пункт (хіба што тыя захочуць пажыць два гады пасобку). Цяжарныя жанчыны, а таксама асобы, якія маюць дзяцей ва ўзросце да 3-х год, могуць патрабаваць, каб іх накіравалі па месцы пастаяннага пражывання сям'і. Спецыяльныя льготныя правілы размеркавання датычаць і выпускнікоў, што маюць інваліднасць.

Але асабліва дзяржава дбае пра сямейнае шчасце людзей у пагонах. Як запісана ў Палажэнні, выпускнікам, чый муж або жонка з'яўляюцца афіцэрамі, прапаршчыкамі, ваеннаслужачымі звыштэрміновай службы работа, — работа абавязкова прадастаўляецца па месцы праходжання службы другой палавіны.

**Алесь САДОЎСКІ**

# «Славнефть» бярэ разгон. Курс – Мазыр

**Расійская кампанія «Славнефть» выходзіць на фінішную прамую ў рэканструкцыі беларускага хімічнага гіганта — Мазырскага нафтаперапрацоўчага завода.**

На прэс-канферэнцыі кіраўнікі кампаніі з задавальненнем канстатавалі, што трэці этап рэканструкцыі скончыўся і пачынаецца асноўны, чацвёрты. Праект каштуе нямала — каля 140 мільёнаў долараў, і, як паведамляецца ў прэс-рэлізе, для прыцягнення крэдытаў плануецца стварыць структуру з хітрай назвай «Таварыства з дадатковай адказнасцю». Прычым 90% адказнасці бярэ на сябе «Славнефть», 10% — мазырскія нафтаперапрацоўшчыкі. У выніку рэканструкцыі выхад светлых нафтапрадуктаў на заводзе павінен павялічыцца з 52% да 82% — што адпавядае еўрапейскім стандартам.

Але мала нарабіць бензіну, трэба яго і выгадна прадаць. Таму «Славнефть» стварае сваю сетку аўтазаправачных станцый, і ў Гомельскай вобласці ўжо робяцца канкрэтныя крокі. Акрамя ўсяго іншага, праект рэканструкцыі патрабуе «жывых» грошай — іх і плануецца атрымліваць непасрэдна праз сетку АЗС.

**Ян ГАЛЕВІЧ**

# Урад хоча купіць грошай на сусветным рынку

*Беларускі ўрад распрацаваў план выпуску и размяшчэння на еўрапейскім фінансавым рынку сваіх каштоўных папераў*

Яшчэ ў пачатку лета з'явілася распараджэнне ўрада аб стварэнні спецыяльнай рабочай групы, у склад якой увайшлі прадстаўнікі Нацбанка, мінфіна і іншых ведамстваў. Урадовых чыноўнікаў, якія працуюць над гэтай ідэяй, відаць, натхняла як неабходнасць пошуку фінансавых сродкаў на расходы дзяржавы, так і станоўчы досвед па размяшчэнні расійскіх каштоўных папераў на еўрапейскім фінансавым рынку.

Расія, як вядома, ужо размясціла 3 серыі еўрааблігацый — на 1 млрд. долараў, 2 млрд. нямецкіх марак і 2 млрд. долараў. Прычым прыбытковасць па гэтых аблігацыях (а значыць кошт атрыманага Расіяй крэдыта) была даволі нізкай (каля 9%), так што расійскаму ўраду было выгадней пазычыць грошы за мяжой, чым унутры краіны. Прычым займ пад аблігацыі быў узяты на тэрміны ад 5 да 10 гадоў.

Невысокія кошты і працяглыя тэрміны займу не маглі не выклікаць зайздрасць і цікавасць у беларускіх чыноўнікаў. У выніку створанай у пачатку лета камісіяй ужо распрацаваны план мерапрыемстваў па падрыхтоўцы і размяшчэнні каштоўных папераў на сусветным рынку. Плануецца, што да канца гэтага года будзе праведзены спецыяльны тэндэр па адборы так званага фінансавага агента, які будзе займацца размяшчэннем беларускіх каштоўных папераў на сусветным фінансавым рынку. Магчымы іх аб'ём ацэньваецца ў памеры да 300 млн.долараў.

Некаторыя папярэднія работы, магчыма, будуць рэалізаваныя сумольна з швейцарскай фірмай *Ameras SA*, старшынёй управы якой з'яўляецца Андрэ Саварэці. Гэтая фірма ў пачатку бягучага месяца падпісала з адным з прадпрыемстваў кіраўніцтва справамі прэзідэнта РБ — «Белзнешгандальінвест» — пагадненне аб стварэнні СП *SWISSBEL SA*, якое будзе зарэгістраванае ў Швейцарыі і будзе займуцца гандлёвымі і фінансавымі аперацыямі, прадстаўляць Беларусь на знешніх рынках. Традыцыйна мяркуецца і прыцягваць у Беларусь інвестыцыі. Ва ўсялякім разе швейцарска-італьянскі бок выяўляе пэўную цікавасць да беларускіх хімічных прадпрыемстваў.

Тым не менш, поспех размяшчэння беларускіх каштоўных папераў за мяжой, нягледзячы на ўвесь расійскі досвед, выглядае даволі сумнеўна. Беларусь не ў стане разлічыцца самастойна за энерганосьбіты, у краіне захоўваецца сітуацыя палітычнай нестабільнасці, міжнародныя фінансавыя арганізацыі выказваюць сумневы ў паспяховым развіцці беларускай эканомікі ў бліжэйшы час. Усё гэта стварае не надта добрае меркаванне аб Беларусі як заёмшчыку і спрыяе ўстанаўленню для краіны нізкага крэдытовага рэйтынгу. У выніку, каб каштоўныя паперы Беларусі карысталіся попытам, давядзецца ўсталёўваць па іх высокі ўзровень прыбытковасці. І пазычаныя грошы абыдуцца задорага для краіны. А ўлічваючы кепскія эканамічныя перспектывы Беларусі пры палітыцы, якая праводзіцца сёння, праблема вяртання пазыкаў можа стаць ледзь не самай істотнай, як гэта ўжо адбылося ў стасунках Беларусі з Расіяй. Толькі вось вяртаць грошы давядзецца праз некалькі гадоў, а ці будзе тады ля ўлады Лукашэнка і ягоныя чыноўнікі — пытанне пакуль без адказу.

**Алесь САДОЎСКІ**

# Брэсцкі «Цветатрон» – фактычна банкрут

**Патрабаванні работнікаў Брэсцкага завода «Цветатрон» аб выплаце даўгоў па зарплаце і пераглядзе сістэмы аплаты павінны быць выкананы да 23 ліпеня. Калі не — завадчане будуць працягваць акцыі пратэсту.**

16 ліпеня на «Цветатроне» па ініцыятыве Свабоднага прафсаюза прайшлі забастоўкі і мітынгі. Вінаватым у крызісе на прадпрыемстве некаторыя рабочыя лічаць дырэктара Міхаіла Урбана, які вось ужо сем гадоў узначальвае завод. Па звестках з абласнога камітэта па эканоміцы, «Цветатрон» — адно з самых нерэнтабельных прадпрыемстваў Брэстчыны і пры наяўнасці закона аб банкруцтве можна было б уздымаць пытанне аб далейшым лёсе гэтага прадпрыемства.

Пасля забастоўкі рабочым паабяцаная зарплата, але, наколькі гарадскія ўлады змогуць дапамагчы кіраўніцтву завода выканаць гэтае патрабаванне, невядома. Само ж прадпрыемства разлічыцца па даўгах за некалькі месяцаў не ў стане — заводская каса зусім пустая.

# «Спартак» патраціўся без толку

*Лукамольцы ўзялі грошы і нават не падзякавалі*

Беларускае фізкультурна-спартыўнае таварыства «Спартак» пераваяло на рахунак Беларускага патрыятычнага саюза моладзі 800 мільёнаў рублёў. Аказалася, што дарэмна.

Нягледзячы на такую шчодрую «дапамогу», «Спартак» не прынялі, як планавалася, у БПСМ у якасці калектыўнага члена, аб чым з абурэннем гаварылася на нядаўнім паседжанні прэзідыума гэтага фізкультурна-спартыўнага таварыства. Першы сакратар ЦК БПСМ Усевалад Янчэўскі нават не палічыў патрэбным прыйсці на паседжанне заўзятараў патрыятычнага спорту.

*БелаПАН*



*ПАЛІТЫЧНЫЯ ГУЛЬНІ*

# «Народное единство» паміж расійскімі правымі і беларускімі левымі

**Палітыкам з імперскімі амбіцыямі яўна не стае тытулаў і пасад. На мінулым тыдні ў Маскве засядаў аргкамітэт руху «Народное единство». Лаўры старшыні начапіў адыёзны дэпутат Думы Мікалай Ганчар, а ягоным намеснікам выбраны старшыня славянскага сабора «Белая Русь» Мікалай Сяргееў.**



Сярод больш чым дзесяці расійскіх і беларускіх арганізацый, якія сталі заснавальнікамі руху большасць складаюць антаганісты сістэмы Ельцына і прыхільнікі рэжыма Лукашэнкі. Гэта партыя Аляксандра Лебедзя, групоўка апазіцыйна накіраванага генерала Рохліна, расійскі камсамол, прадстаўнікі былога Галоўнага ўпраўлення КДБ СССР на чале з яго былым старшынёй Леанідам Шабаршыным, а таксама беларускія «патрыёты»: Славянскі сабор, беларускія камсамольцы і «интеллигентствующие» з невядомымі прозвішчамі, — выключэнне хіба Уладзімір Гасцюхін.

Усе яны нязгодныя з залішне маруднай інтэграцыяй паміж дзвюма краінамі, гатовыя пачаць збор подпісаў сваіх аднадумцаў, каб правесці рэферэндум. Правадыр «Народного единства» М.Ганчар пражэктуе, што плебісцыт можа адбыцца. Я запыталася ў М.Ганчара, нашто яму патрэбны гэты рэферэндум, якія асабістыя мэты ён праследуе. *«Я вельмі не хацеў бы,* — адказаў Ганчар, — *каб маёй дачцы калі-небудзь заявілі: «Ты не зусім руская». Я сам напалову рускі, напалову ўкраінец. Аднойчы мяне запрасілі ў Кіеў на з'езд украінцаў, якія жывуць за мяжой, а потым патэлефанавалі і сказалі: «Прабачце, у вас жа мама руская, таму мы не можам вас запрасіць»*. Вельмі сумнеўна, што ў выніку рэферэндуму дачка Ганчара абрусее поўнасцю.

Між іншым, расійскі фонд «Общественное мнение» паведаміў, што колькасць прыхільнікаў аб'яднання дзвюх краін у Расіі змяншаецца. Прычым для большасці тых, хто лічыць, што аб'ядноўвацца не трэба, парушэнні правоў чалавека і дэмакратычных свабод у Беларусі з'яўляецца асноўнай прычынай.

**Марына РАССАФОНАВА**

# Отсутствие результата – тоже результат

## Трехсторонние переговоры оказались еще более безуспешными, чем ожидалось

**Вадим КАЗНАЧЕЕВ**

Месяц назад, по окончании первого раунда переговоров между представителями Верховного Совета и лукашенковской администрации при посредничестве Евросоюза, глава миссии ЕС М.Рассел не скупился на оптимистические заявления насчет дальнейших перспектив. Собственно, этими заявлениями он и ограничивался, поскольку как раз по инициативе европейцев участники приняли решение о конфиденциальности переговоров. Не знаю, чего здесь было больше — дипломатии или искренней надежды на здравый смысл — но в любом случае разделить этот оптимизм как-то не получалось. Однако думалось, что коль скоро режим решил пригласить европейцев в качестве посредников, то на какие-то подвижки он готов пойти. Произошло иначе.

### Кривая коза режима

Что же произошло? А ровным счетом ничего. 3 дня переговоров прошли впустую — с чего начался второй раунд, тем он и закончился. Цель переговоров, как известно, изначально была задана как *«усовершенствование Конституции 1994 г.»*. Именно это было обозначено в письме министра иностранных дел И.Антоновича, написанном *«по поручению Президента Лукашенко»* (последнее обстоятельство уточнялось в информационном сообщении, утвержденном всеми участниками переговоров).

Никакой другой цели, собственно говоря, там и не могло быть: лукашенковскую «конституцию» цивилизованный мир не признаёт, и если бы было предложено ее «усовершенствовать», то и белорусская парламентская оппозиция ответила бы отказом, и никакие европейцы сюда бы не поехали. Но уже во время переговоров тот же И.Антонович, возглавляющий лукашенковскую сторону, заявил, что имелась в виду «Конституция 1994 г. с изменениями и дополнениями, принятыми на ноябрьском референдуме». А посему и в регламент в качестве цели переговоров надо, мол, записывать «уточненную» формулировку. Таким образом, наш режим решил объехать европейцев на кривой козе. У европейцев это восторга не вызвало,— однако они всеми силами попытались найти компромисс. Попытка оказалась неудачной: лукашенковская сторона на компромисс не согласилась.

Тогда европейские посредники избрали иную тактику ведения переговоров: видя, что общие заседания не приносят успеха ни на йоту, европейцы инициировали работу участников в небольших группах, в каждую из которых входили представители от разных сторон. Третий день переговоров начался с индивидуальной беседы М.Рассела и И.Антоновича. Но и от этой тактики не было никакого толку. Да и не могло быть: по неофициальной информации, Антонович получил жесткую установку «не поступаться принципами» в отношении «конституции». С другой стороны, европейцы ни на какой иной вариант, кроме Конституции 1994 г., пойти не могли: для этого их пригласили, и только на это они получили мандат Евросоюза.

### До встречи в сентябре?

Когда окончательно стало ясно, что в активе переговоров абсолютный нуль и просвета не предвидится, европейцы свернули программу. Третий день переговоров стал последним (хотя предполагался еще и четвертый). Запланированная ранее пресс-конференция была отменена (и в самом деле, о чем на ней говорить — о полном провале?) Если прежде европейцы собирались приехать в Минск в конце июля на 2 недели, то теперь они приедут всего на 2 дня. Пресс-релиз на сей раз оказался весьма коротким и принятым не всеми сторонами, а только делегацией Евросоюза. В пресс-релизе лаконично выражено благое пожелание *«приступить к исполнению задачи без дальнейшей задержки»* и сожаление по поводу того, что достичь согласия по процедурным вопросам не удалось и *«основную работу пришлось снова отложить»*. Кроме того, сообщается, что 29 и 30 июля работа возобновится *«для того, чтобы окончательно согласовать правила процедуры и приступить к работе по существу. По согласованию сторон следующая встреча рабочей группы назначена на 9 сентября»*.

Добавим: возникают большие сомнения в том, что делегация Евросоюза действительно потащится в Минск в сентябре, если в конце июля не удастся согласовать те самые процедурные вопросы. Вероятно, Европа как бы дала режиму время на раздумье. 29—30 июля Евросоюз проведет «разведку боем», по данным которой и сделает вывод, стоит ли тянуть эту канитель. Вряд ли Евросоюз будет тратить усилия на совершенно бесполезную работу. Хотя нельзя сказать, что европейская делегация совсем уж потратила время и энергию даром: отсутствие результата — тоже результат.

### Возможные перспективы

Трудно делать прогнозы в авторитарной системе, где всё зависит не от объективных факторов, а от левой ноги определенного человека. Еще труднее, ежели взбалмошность этого человека не поддается описанию, а идиома «Семь пятниц на неделе» стала основным принципом управления государством. Но попробуем рассмотреть несколько вариантов.

Вполне возможно, что Лукашенко повернется к Европе той частью тела, которая с этой частью света рифмуется. Тем более, что для нашего диктатора это — дело привычное.

В этом случае в плане конституционного кризиса все остается как было. Вместе с тем уже очевидно, что Верховный Совет упрочил свои позиции на западном направлении, а режим лишний раз показал Европе свое истинное лицо (т.е. ту самую вышеупомянутую часть тела). Европа вновь убедилась, что с этим режимом дела иметь нельзя. Оппозиция, надеюсь, приложит все силы, чтобы донести эту раскладку до сограждан, и тут должны будут поработать политические партии.

Однако даже если режим пойдет на компромисс по первому пункту регламента (цель переговоров), это вовсе не снимает проблемы, а лишь оттягивает ее. Антонович заявляет, что в своем письме он «имел в виду другое» — кто помешает ему сказать то же самое, пусть себе в регламенте и запишут «Конституция 1994 г.»? Вопрос, какой документ брать за основу, даже если решится на процедурной стадии, неизбежно встанет на стадии работы по существу.

Сложность дальнейших переговоров заложена в самом их регламенте. Каждый из участников имеет право вето. Итоговый документ по усовершенствованию Конституции, если каким-то чудом и будет принят в таких условиях, будет иметь только консультативный характер. Кроме того, у Лукашенко всегда останется возможность сказать, что документ представляет собой только личную точку зрения участников переговоров (в том числе и чиновников его администрации), а сам он никаких обязательств на себя не брал. И на любом этапе переговоров режим может «тормознуть» их ход.

Правда, все варианты саботирования переговоров не принесут для режима никакого положительного эффекта. Европе нужен конкретный результат: установление демократии в Беларуси. Поэтому решающее значение будут иметь не дипломатические усилия парламентской оппозиции (что не отменяет их важности), а то, насколько значительным фактором для Лукашенко является снятие международной изоляции. Вряд ли настолько, чтобы пойти на кардинальные перемены. Но какие-то ходы он предпринять может, и оппозиция должна быть готова к тому, чтобы соответственно на них отреагировать.

Возможно, Лукашенко будет готов на некоторые косметические изменения своей «конституции». В этом случае оппозиции следует не напяливать лавровый венок (оттого, что ее наконец-то признали и даже выполнили некоторые требования), а стоять на своем. Для того, чтобы сделать нынешнюю правовую систему Беларуси более или менее приемлемой, изменения должны быть очень существенными.

Не исключено (по неофициальным данным, такой вариант прорабатывается во властных кругах), что режим соберет-таки Верховный Совет XIII созыва — и на нем двумя третями примет все лукашенковские поправки. Если так, то однозначно необходимо сделать превентивный ход и в обязательном порядке требовать довыборов в законодательный орган (как минимум в тех округах, где второй тур осенних довыборов был сорван в результате государственного переворота).

### Закон и право

В сущности, проблема-то даже не столько в тексте Конституции нашей страны, сколько в ее соблюдении. Вспомним, сколько раз Лукашенко нарушал Конституцию 1994 г., которая, кстати, и без того предоставляла ему огромные полномочия. Если «батьку» очень уж прижмет и он согласится на демократическую Конституцию — это еще не значит, что таковая будет соблюдаться. Что подешевле — ну не предполагают диктаторские замашки правового подхода. Ведь Лукашенко многократно нарушал уже и собственную «конституцию». Поэтому следует настаивать на международном контроле за соблюдением законодательства в нашей стране.

В общем-то, такое требование формально совпадает с желанием режима. В том же письме от 10 апреля с.г. на имя председателя Евросоюза Х.ван Миерло белорусский министр иностранных дел, помимо прочего, просил помощи в *«установлении независимого контроля за функционированием законодательства»*. Упоминались также «защита прав человека и независимая роль СМИ». Так что дел — непочатый край, даже по мнению режима. Все эти вопросы, несомненно, будут подняты — не режимом, но оппозицией — в ходе переговоров. Буде они продлятся.

# Преступление и наказание в советских традициях

Последние кадровые пересатановки, разговоры об очередных передвижках во властных кругах вплоть до возможной отставки премьер-министра Сергея Линга демонстрируют, что вновь активизируются аппаратные разборки. Приближается время поисков козлов отпущения, на которых надо свалить плохие показатели работы народного хозяйства и прочие проблемы. При этом каждый пытается сделать ход первым избежав обвинения в попустительстве и безответственности. Якобы собирающийся уходить со своего поста премьер перед тем, как отбыть в отпуск, не забыл составить список «виновных».

### «Признать недостаточной»

В постановлении Совета министров с угрожающим названием «О мерах по повышению исполнительской дисциплины в республиканских и местных органах государственного управления» отмечаются уже набившие оскому экономические достижения вроде роста ВВП, а также сообщается, что *«достижение положительных результатов сопровождалось укреплением исполнительской и трудовой дисциплины»*. Однако в этом же документе данные снова опровергаются.

Козлы отпущения действительно нужны, им есть за что быть принесенными в жертву. К примеру, *«не удалось добиться слаженной работы на всех уровнях государственного управления, дисциплина и ответственность в ряде министерств и других республиканских органов госуправления не соответствуют современным требованиям»*.

В числе провалов отмечается, что среднемесячные темпы инфляции по итогам 5 месяцев составили 6,2% вместо прогнозируемых 2%, темпы прироста экспорта за 4 месяца составили лишь 7,6% (прогноз — 13,8%) и отстают от темпов прироста импорта, которые составили 12,6% при прогнозе в 5,9%. Отмечается также большое число убыточных предприятий, низкий уровень рентабельности, рост суммы неплатежей и задолженности по заработной плате. С последним проблемы наблюдаются прежде всего у минсельхозпрода, минпрома, а так же министерства архитектуры и строительства. Зафиксирован спад объема производства в электроэнергетике, топливной промышленности, падение объемов добычи нефти, производства азотных удобрений, металлорежущих станков, тканей и т.п.

Констатируется, что *«не изжиты факты пьянства на производстве, что ведет к гибели людей. В республиканских и местных органах управления многие служащие государственного аппарата проявляют недисциплинированность, а подчас и некомпетентность»*.

В частности, министерство сельского хозяйства и продовольствия, министерство иностранных дел, и минский горисполком проштрафились тем, что «несвоевременно исполняли указания президента».

В правительство продолжает поступать много жалоб от населения, что свидетельствует о слабой работе местных органов. Так, в 1996 году в совмин поступило 4.280 письменных и устных обращений граждан и за 4 месяца 1997 г. — 1.389. 40% обращений в этом году приходится на жителей Минска.

В результате совет министров постановил признать работу министерств, других органов государственных органов управления, объединений, подчиненных правительству, облисполкомов и минского горисполкома по выполнению решений и поручений президента и Совета министров недостаточной.

### «Сосредоточить и создать»

Кроме взысканий на ряд сотрудников аппарата Совета министров, был объявлен выговор председателю Государственного налогового комитета Н.Демчуку, «указано» министру внешнеэкономических связей М.Мариничу и министру сельского хозяйства и продовольствия В.Леонову.

Принят еще ряд решений, однако все они выдержаны в лучших совдеповско-бюрократических традициях. Различным органам управления рекомендуется «принять меры», «сосредоточить усилия», «укрепить аппарат», *«повысить эффективность контроля», «создать необходимые условия», «активизировать работу», «установить жесткий контроль»* и т.п. Данные методы используются со времен сотворения бюрократии с единственной целью — создать видимость реальной работы и не сделать ничего, благо проверить и выполнение таких размытых поручений невозможно. Реальные шаги в документе ограничиваются указаниями на необходимость проведения совещаний и заседаний на разных уровнях. В рамках оперативных разборок принятый документ является довольно хорошим предупреждающим ходом со стороны Линга: совмин предложил своих козлов отпущения. Остается ждать, кого предложат другие звенья власти и ограничатся ли они бюрократически-фиктивными видами наказаний.

### А что за цифрой?

Следует отметить еще один интересный момент. Ряду органов управления поручено рассмотреть достоверность статистической отчетности, представляемой колхозами, совхозами и другими сельскохозяйственными предприятиями и наказать виновных вплоть до привлечения к уголовной ответственности. А дыма без огня не бывает. Правительство косвенно признало, что показатели работы белорусского сельского хозяйства, фиксируемые официальной статистикой, далеки от реальности.

**Алесь САДОВСКИЙ**

ДОДУМАЛИСЬ

# Всё для удобства стукача

**Популистская истерия во время вступительных экзаменов в высшие учебные заведения создала много хороших возможностей для стукачей.**

Например, в Академию искусств пришло распоряжение за подписью г-на Заметалина, согласно которому на период экзаменов предписывается создать так называемый телефон доверия. По этому телефону любой человек может пожаловаться по поводу нарушений во время экзаменов. На «доверительном проводе» должен сидеть сотрудник вуза в ранге не ниже чем заведующий кафедрой.

**Марыля ЗЮЛЬЦЕНБАХЕР**

*Взгляд с Запада*

# Русская болезнь

Вряд ли что-нибудь может шокировать больше, чем посещение общей палаты росийской больницы. «Болезнь легких, сердечный приступ, рак, алкагольное отравление, высокое кровяное давление, — перечисляет болезни своих пяти подопечных, ни одному из которых нет еще 50-ти, молоденькая медсестра. — Обычный контингент. Все они скоро умрут».

Это заявление может показаться слишком мрачным, но оно вполне соответствует действительности. Российские мужчины средних лет умирают такими темпами, которым нет аналогов в современной истории: от чрезмерного пьянства, чрезмерного курения, ужасного питания, недостатка физических упражнений и огромного нервного стресса, вызванного экономическим упадком и социальным расслоением общества. В стране зафиксирован небывалый уровень самоубийств и умышленных убийств. Ко всему этому следует добавить еще такое истинно русское явление, как полнейшее безразличие к жизни. *«Это безразличие ко всему жизненному, к правде жизни, ко всему, что питает жизнь и делает человека здоровым,* — писал в 1876 г. Федор Достоевский, жалуясь на беспросветный мрак, царящий в русской душе. — *В отличие от других европейских государств, это безразличие присуще только России и является чисто русской болезнью».*

Трудно утверждать, был ли оправдан такой пессимизм по поводу здоровья и будущего нации более 100 лет назад. Но то, что он уместен сегодня, не вызывает сомнения. Нынешняя демографическая статистика России шокирует: самое высокое в мире потребление алкоголя на душу населения, почти вдвое превышающее опасный для здоровья уровень, определенный Всемирной организацией здравоохранения; самая большая в мире разница между продолжительностью жизни мужчин (59 лет) и женщин (73 года); самый высокий в мире уровень смертности (15,1 смертей на 1.000 жителей при том же показателе в Америке 8,8). Из всех стран Европы, Азии и Америки хуже обстоят дела лишь в Афганистане и Камбодже. Смертность среди работоспособного населения России превышает уровень столетней давности. В направленном недавно президенту Ельцину докладе отмечалось, что *«нынешние темпы смертности представляют главную угрозу национальной безопасности страны»* и, что *«только экстренные меры могут позволить найти выход из создавшегося демографического кризиса».* Тем не менее, судя по всему, вопрос ухудшающегося здоровья нации не очень волнует руководство. В этому году правителство выделило на нужды здравоохранения всего 2,6 % от общего бюджета значительно меньше, чем в других развитых странах.

Большинство демографов сходятся во мнении, что кризис начался давно и умышленно скрывался при помощи недостоверных и неполных статистических данных. Даже если верить официальной статистике, за последние пять лет положение еще больше ухудшилось, и в 1995 г. уровень смертности среди мужчин в возрасте от 40 до 49 лет составил 16,3 смертей на 1.000 жителей и на 77 % превысил уровень 1990 г. Последние сообщения об увеличении продолжительности жизни в 1996 г. можно объяснить лишь тем, что основная масса мужчин среднего возраста уже умерла.

*Российские мужчины умирают темпами, которым нет аналогов в современной истории: от чрезмерного пьянства, чрезмерного курения, ужасног.о питания, недостатка физических упражнений и огромного нервного стресса.*



Согласно первой всеобщей переписи населения, проведенной в прошлом веке, сегодня население России должно было бы составлять 400 млн. человек. Однако, в настоящее время оно равняется всего 147,5 млн. и, как отмечалось в вышеупомянутом докладе Ельцину, в случае непрития срочных мер в ближайшие 50 лет оно может сократиться еще на 30 млн. Из 3,5 млн. человек в возрасте до 60 лет, умерших в России за последние 5 лет (такая смертность наблюдалась в современной истории только во время голода или опустошительных войн), большинство составляет работоспособное население, в котором Россия особенно нуждается сейчас для выхода из кризиса. В 1940 г. работоспособное население составляло 40% от общего населения, при числе пенсионеров 8%. Сегодня число нетрудоспособных возросло до 24%, тогда как число работающего населения сократилось вдвое. В прошлом году население России уменьшилось на 480 тысяч человек, что является рекордным сокращением с времен Второй мировой войны. *«Вы спрашиваете, как долго все это будет продолжаться?* — повторяет заданный ему вопрос демограф из Вашингтона Карл Хауб. — *Вся беда в том, что низкий уровень рождаемости в России является прямым следствием неуверенности россиян в завтрашнем дне».*

**Майкл СПЕКТЕР**
*International Herald Tribune*
*Перевел*
**Владимир АБАНИН**

# Жыццё аўтара нямецкай дэмакратыі

**У Магілёве адчынілася выстава «Конрад Адэнаўэр — грамадзянін Германіі, грамадзянін Еўропы».**

Выстава, наладжаная нямецкім фондам імя гэтага славутага палітыка, прысвечаная жыццю і палітычнай дзейнасці Адэнаўэра. Выстава выклікала вялікую цікавасць наведвальнікаў. Дастаткова сказаць, што за два тыдні тоўсты сшытак, прызначаны для запісаў уражанняў гледачоў, ужо запоўнены і давялося рабіць дадатковы.

Конрад Адэнауэр — вялікі нямецкі палітык 30—60-х гадоў. Ён быў адным з уплывовых апанентаў нацыстаў, якія пасля прыходу да ўлады пазбавілі Адэнауэра ўсіх пасад. Пазней ён быў кінуты спачатку пад нагляд, а потым і за краты. Пасля вайны Адэнаўэр узначаліў першы ўрад той часткі Германіі, што знаходзілася пад кантролем заходніх дэмакратый. Ён быў адным з аўтараў сацыяльнай рынкавай гаспадаркі, адстойваў прынцыпы дэмакратыі, адкрытасці, сацыяльнай салідарнасці.

Экспазіцыя будзе выстаўляцца і ў іншых гарадах нашай краіны.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

# Дапамога для Кубы, але не для Кастры

**У той час, як рэжым Лукашэнкі развівае сувязі са старым рэвалюцыянерам Фідэлем Кастрам, амерыканцы наладжваюць кантакты з Кубінскай рэвалюцыйнай арміяй, каб правесці на Кубе дэмакратычныя змены.**

Напрыканцы 1996 года вышэйшае камандаванне ўзброеных сілаў паінфармавала вярхушку Камуністычнай партыі, што новыя эканамічныя цяжкасці і незадавальненне палітычным рэжымам могуць прывесці да масавых акцыяў пратэсту — кшталту тых, што адбыліся ў 1994 годзе. Гэтым разам генералы баяцца, што не змогуць пагасіць хваляванні.

У пачатку года прэзідэнт Клінтан прапанаваў Кангрэсу да разгляду дакумент пад назвай «Падтрымка Кубы ў пераходзе да дэмакратыі», які прадугледжвае шчодрае фінансаванне пабудовы дэмакратычнага грамадства на Кубе, але без удзелу Фідэля Кастры і ягонага брата — міністра абароны Рауля Кастры. Паводле многіх аналітыкаў, ЗША ўпершыню абралі паслядоўную палітыку ў дачыненні «вострава Свабоды». Кубінскім вайскоўцам далі зразумець, што шляхі да супрацоўніцтва ёсць, і адзінай перашкодай застаюцца два браты-дыктатары. Белы дом заявіў, што на рэканструкцыю Кубы можа быць выдаткавана каля 8 мільярдаў долараў, — але пры ўмове, што новыя кіраўнікі паставяць сваёй галоўнай мэтай усталяванне дэмакратычных правоў.

Чаму менавіта на армію ўскладаюцца такія надзеі? Вопыт Балканаў паказаў, што адных фармальных зменаў у сістэме кіравання дзяржавай недастаткова. Пакуль грамадства адаптуецца да новых умоваў, мусіць быць рэальная сіла, якая б супрацьстаяла анархіі. Армія і з'яўляецца той самай сілай, што не толькі дапаможа пераставіць краіну на рэйкі дэмакратыі, але і захавае гэтую дэмакратыю ў будучыні.

Апроч фінансавага заахвочвання, ЗША прапануюць кубінскім ваенным удзел ва Усеамерыканскім савеце па абароне, у міратворчых аперацыях, у праграмах супрацоўніцтва ў ваеннай галіне. Але, на думку Д.Фернандэса, прафесара універсітэта штата Флорыда, прапановы Белага дома могуць не знайсці водгуку ў арміі, дзе пануюць моцныя камуністычныя настроі. Да таго ж генералы ведаюць смак прывілеяў, якія дазваляюць ім мець вельмі высокі статус у сённяшніх варунках. Магчыма, найбольшы ўплыў прапановы ЗША зробяць на афіцэраў сярэдняга звяна, якія не скампраметаваныя непасрэдным супрацоўніцтвам з дыктатарскім рэжымам і жывуць у тых жа ўмовах, што і большасць людзей на Кубе. Не трэба забывацца, што менавіта салдаты і сярэднія афіцэры ў крызісныя гадзіны вырашаюць вынік бітвы. Прычым насуперак загадам камандавання.

*Па матэрыялах El Nuevo Herald падрыхтаваў*
**Дзмітрый ДАРОХІН**

*ДАГЕРОТИП*

# Интеллектуал в объятиях тоталитаризма

*О судьбе Мартина Хайдеггера*

**Семен БУКЧИН**

Поговорим — нет, не о странностях любви... Но тоже о вещах, на первый взгляд, странноватых. Ну что такое, к примеру, интеллектуал в глазах нормального человека? Безусловно, это прежде всего демократ. Но разве мы не свидетели того, как нынешнее демократическое мышление дает сбои у известных интеллектуалов?

Был демократ, боролся с всесилием КПСС и КГБ, а потом, после распада Союза, вдруг растерялся и стал что-то глухо бубнить о великой стране, о патриотических традициях... И вот его уже не отличить от самых диких имперщиков и шовинистов.

У каждого, разумеется, свой случай. Жаль свою страну, свой народ. Жаль себя. Хочется какой-то опоры, значительной идеи. Страшно на пустыре, на юру, обдуваемом ветрами. Одиноко. А демократические принципы — они какие-то голые, неуютные...

Впрочем, повторю: у каждого свое. Наверное, это свое было и у Мартина Хайдеггера, когда он пришел к нацистам. Знаменитейший немецкий философ-экзистенциалист, с особой остротой запечатлевший в своих трудах личностный поиск «истинного бытия», вдруг становится ярым поклонником Гитлера. Эту проблему исследует в своей книге «Бытие и время» немецкий профессор Гуго Отто. Она только что вышла в переводе на польский под названием «Мартин Хайдеггер. На пути к биографии» в варшавском издательстве *Volumen*. В польском варианте я и познакомился с этим сочинением.

Так что же случилось с Мартином Хайдеггером? Почему этот умнейший человек, так дороживший свободой личности, увлекший многих мыслящих европейцев в 20—30-е годы широким спектром своих духовных исканий, в 1933 году «заболел» национал-социализмом? Он вступил в НСДАП 1 мая, в День Немецкого Труда. Сохранилось письмо, адресованное им тогда же видному чиновнику министерства образования: *«Благодарю вас за поздравление по случаю моего вступления в партию. Сегодня мы должны все силы сконцентрировать на том, чтобы мир образованных и ученых людей проникся новым духом национальной политики. Это будет нелегким делом. Зиг хайль!»*

Ученик Хайдеггера Карл Левиц был убежден в том, что приход Хайдеггера к национал-социализму непосредственно связан с его философией. В своих воспоминаниях 1940 года Левиц писал: *«Хайдеггер согласился со мной и подчеркнул, что именно понимание исторического времени способствует политической заангажированности. Он абсолютно верил в Гитлера и был убежден, что национал-социализм является единственно верной дорогой для Германии».*

В том же 1933 году Хайдеггер стал ректором университета во Фрайбурге и сразу же начал его очищение от «неарийских» элементов. Чистка коснулась и его учителя, одного из величайших философов XX века Эдмунда Гуссерля, феноменология которого была одной из основ ранних трудов самого Хайдеггера. Гуссерль был уже на пенсии, но изредка почитывал лекции. Фрау Хайдеггер была чрезвычайно смущена поступком мужа и демонстративно послала старику Гуссерлю большой букет цветов и записку, свидетельствовавшую о желании «сохранить добрые отношения».

В университете начал внедряться военно-пропагандистский стиль. Соответственно звучали речи ректора: *«Немецкие студенты уже на марше. Если кого-то они все еще ищут, то только вождей, способных увлечь их понятным словом и делом».*

Левиц говорит о связи выбора своего учителя с его философией. Но это не отвечает действительности. Хайдеггер труден, не очень ясен как философ. Некоторые коллеги иронически выражались о нем как о единственном философе после древнего Гераклита, о котором Сократ говорил, что нужно не единожды глубоко нырять для постижения его философии. Но идеалы Гераклита всё же далеки от национал-социалистических.

Так в чем же дело? Почему ни философия, ни блестящее математическое и логическое образование, ни глубоко усвоенная теология не спасли Хайдеггера от ужасной ошибки? Впрочем, «какая может быть философия в убогие времена?» — как говорил немецкий поэт Гёльдерлин, на которого, кстати, Хайдеггер часто любил ссылаться. И тем не менее?

Профессор Гуго Отт честно пытается дать ответ на этот вопрос. Книга сделана с немецкой основательностью, в ней масса документальных свидетельств. Мы видим Хайдеггера и в процессе его расставания с тяжелым прошлым, с тем, что отошедший от него еще в 30-е годы Карл Ясперс назвал «немецкой виной». И все-таки книга Г.Отто не дает ответа на главнейший вопрос: почему высочайший интеллектуал попал в сети нацизма? Но зато она заставляет думать читателей. Случай Хайдеггера сложен. И вместе с тем в нем явно просвечивает слабость интеллектуалов перед мощью тоталитарного напора. Разве не о том же свидетельствует и советская эпоха? И пришедшее за ней якобы «суверенное» время? Философия терпит поражение перед вызовом времени — таков, пожалуй, урок Хайдеггера. И только ли знаменитого немца...

СВАБОДА
22 ліпеня 1997 г., № 78

Уладзімір АРЛОЎ, Генадзь САГАНОВІЧ

# Дзесяць вякоў беларускай гісторыі

*Беларусь у Расейскай імперыі*

## 27 лістапада (9 снежня) 1891. Нарадзіўся Максім Багдановіч

Яго бацька Адам Багдановіч быў беларускім фалькларыстам, этнографам і мовазнаўцам. Літаратурныя здольнасці мела і маці — Марыя Мякота, якая памерла, калі Максіму ішоў шосты год. Будучы паэт з'явіўся на свет у Менску, але неўзабаве сям'я пераехала ў Горадню, дзе і прайшло яго ранняе дзяцінства. Пасля раптоўнай смерці маці — новы пераезд, гэтым разам у Ніжні Ноўгарад, куды бацьку перавялі на службу.

Атмасфера сям'і, культурнае асяроддзе буйнога горада, сяброўска-сваяцкія дачыненні бацькі з Максімам Горкім (яго жонка была сястрою другой жонкі Адама Багдановіча) спрыялі выхаванню эстэтычнага густу, рана абудзілі імкненне да мастацкай творчасці. Недзе паміж дзесяццю і адзінаццаццю гадамі Максім ужо спрабаваў пісаць вершы на беларускай мове, якой, жывучы ў цалкам расейскамоўным асяроддзі, авалодаў самастойна — дзякуючы беларускім выданням з бацькавай бібліятэкі, а потым і газеце «Наша Ніва». Трэба адзначыць, што Багдановіч-старэйшы не ўхваляў сынавага захаплення, мяркуючы, што беларусіка «больш замінала ягоным поспехам, чым спрыяла».

Пасля грунтоўнай хатняй падрыхтоўкі Максім вучыўся ў гімназіі — спачатку ў Ніжнім Ноўгарадзе, а потым у Яраслаўлі, куды Багдановічы пераехалі ў 1908 годзе. Прыкладна ў гэтым часе у юнага паэта пачаўся туберкулёзны працэс у лёгкіх.

Падзеяй велізарнага значэння ў жыцці паэта стала паездка ў Беларусь улетку 1911 года, пасля заканчэння гімназіі. Яго запрасілі супрацоўнікі «Нашай Нівы» (на яе старонках у ліпені 1907 года адбыўся літаратурны дэбют Багдановіча — было надрукаванае апавяданне «Музыка», а неўзабаве і вершы) Іван і Антон Луцкевічы, якія ўжо бачылі агульнанацыянальную значнасць літаратурнага таленту беларускага юнака з Яраслаўля. Ад чэрвеня да жніўня Максім жыў у фальварку Ракуцёўшчына (паблізу ад Маладзечна), што належаў дзядзьку Луцкевічаў. Тут ён з асалодаю акунуўся ў стыхію народнай мовы. Тут напісаў дзве паэмы і шаснаццаць вершаў, што склалі выдатныя паэтычныя нізкі «Места», «Старая Беларусь» і «Мадонны».

Максімавы мары пра заняткі беларускай філалогіяй у Пецярбургскім універсітэце былі перакрэсленыя матэрыяльнымі цяжкасцямі і хваробаю. Не апошнюю ролю адыграла і пазіцыя бацькі. Паэт мусіў паступіць у юрыдычны ліцэй і толькі пасля яго заканчэння, у верасні 1916 года, здолеў пераехаць у Менск.

Ён вярнуўся на Бацькаўшчыну ўжо знакамітым паэтам.

Пры канцы 1913 года ў Вільні, у друкарні Марціна Кухты, выйшаў яго зборнік «Вянок», якому наканавана было застацца адзінай прыжыццёваю кнігай. Ліцэйскія гады пазначаныя плённай публіцыстычнай і літаратурна-крытычнай дзейнасцю: адна за адной з'яўляюцца яго працы: «Кароткая гісторыя беларускай пісьменнасці да XVI сталецця», «За сто гадоў», «Беларускае адраджэнне»... Пяру Багдановіча належаць шматлікія публікацыі ў расейскай і ўкраінскай перыёдыцы, у тым ліку грунтоўныя літаратуразнаўчыя даследванні пра Тараса Шаўчэнку. Натхнёна працаваў паэт і над перакладамі з эўрапейскіх моваў. Сцвярджаючы шырокія выяўленчыя магчымасці роднай мовы, ён адным з першых у беларускай літаратуры бліскуча працаваў у такіх складаных вершаваных формах, як санет, трыялет, рандо, актава, тэрцыны... Ён стаў адным са стваральнікаў беларускай літаратуры і літаратурнай мовы новага часу.



Максім Багдановіч.

У 1915 годзе нарадзіўся шэдэўр Багдановічавай паэзіі — верш «Пагоня», які стаўся адным з неафіцыйных беларускіх гімнаў.

ПАГОНЯ

*Толькі ў сэрцы трывожным пачую*
*За Краіну радзімую жах,*
*Ўспомню Вострую Браму святую*
*І ваякаў на грозных канях.*
*Ў белай пене праносяцца коні,*
*Рвуцца, мкнуцца і цяжка хрыпяць:*
*Старадаўняй Літоўскай Пагоні*
*Не разбіць, не спыніць,*
*не стрымаць.*
*У бязмерную даль вы ляціце,*
*А за вамі, прад вамі — гады.*
*Вы за кім у пагоню спяшыце?*
*Дзе шляхі вашы йдуць і куды?*
*Мо яны, Беларусь, панясліся*
*За Тваімі дзяцьмі ўздагон,*
*Што забылі Цябе, адракліся,*
*Прадалі і аддалі ў палон?*
*Бійце ў сэрцы іх, — бійце мячамі,*
*Не давайце чужынцамі быць!*
*Хай пачуюць, як сэрца начамі*
*Аб радзімай старонцы баліць...*
*Маці родная, Маці-Краіна,*
*Не усцішыцца гэтакі боль!..*
*Ты прабач, Ты прымі свайго сына,*
*За Цябе яму ўмерці дазволь.*
*Ўсё лятуць і лятуць тыя коні,*
*Срэбнай збруяй далёка грымяць...*
*Старадаўняй Літоўскай Пагоні*
*Не разбіць, не спыніць,*
*не стрымаць.*

У лютым 1917 года здароўе ў Максіма Багдановіча надта пагоршылася. Менскія сябры выправілі яго на лекаванне ў Ялту, але было ўжо позна. Вядома, што ў апошнія свае дні геніяльны паэт займаўся складаннем беларускага лемантара. На самай мяжы жыцця слабая паэтава рука вывела:

*Ў краіне светлай, дзе я ўміраю,*
*У белым доме ля сіняй бухты,*
*Я не самотны, я кнігу маю*
*З друкарні пана Марціна Кухты.*

**У.А.**

## 1903. Утварэнне першай беларускай палітычнай партыі – Грамады

Партыя была створаная ў снежні на з'ездзе прадстаўнікоў студэнцкіх і вучнёўскіх гурткоў Вільні, Менска і Пецярбурга. Каля яе вытокаў стаяла група беларускіх студэнтаў, якія ўвосень 1902 года ўзяліся за арганізацыю падпольнай Беларускай Рэвалюцыйнай Партыі. У гэтую групу ўваходзілі Вацлаў Іваноўскі, Алаіза Пашкевіч (Цётка), Іван Луцкевіч...

На з'ездзе партыя атрымала назоў Беларуская Рэвалюцыйная Грамада, а пазней была перайменаваная ў Беларускую Сацыялістычную Грамаду (БСГ). Акрамя ўжо названых дзеячоў нацыянальнага адраджэння ў шэрагу заснавальнікаў Грамады былі Вацлаў Ластоўскі, Антон Луцкевіч, Алесь Бурбіс, Казімір Кастравіцкі (Карусь Каганец) ды іншыя.

За бліжэйшую мэту БСГ мела знішчэнне царскага самаўладдзя і сцверджанне дэмакратычных свабод у супольнай барацьбе разам з іншымі народамі імперыі, пасля чаго ставілася задача пабудовы сацыялізму. Што да нацыянальнага пытання, дык першая праграма партыі прадугледжвала ўтварэнне незалежнай Беларускай дэмакратычнай рэспублікі, а другая (1906) — дзяржаўную аўтаномію краю з соймам у Вільні (у складзе дэмакратычнай федэратыўнай Расеі).

Стваральнікі Грамады бралі чынны ўдзел у заснаванні першага нацыянальнага легальнага выдавецтва «Загляне сонца і ў наша ваконца» і першых легальных беларускіх газет «Наша Доля» і «Наша Ніва».

Пад час Першай сусветнай вайны браты Луцкевічы разам з В. Ластоўскім выступілі з прапановаю аднаўлення Вялікага Княства Літоўскага са сталіцаю ў яго старадаўным цэнтры — Вільні, што тады была пад немцамі.

На беларускім абшары, што заставаўся пад кантролем Расеі, Грамада ўзнавіла дзейнасць пасля лютага 1917 года. Менавіта ёй належыць асноўная роля ў скліканні ў Менску з'езда прадстаўнікоў нацыянальных арганізацый, які выказаўся за аўтаномію Беларусі.

Падзеі 1917 года спрыялі росту БСГ на Беларусі і ўзнікненню яе арганізацый у Петраградзе, Маскве, Кіеве, Казані ды іншых буйных гарадах. Грамада хутка зрабілася сама значнай палітычнай сілай беларускага нацыянальнага руху. Час вылучыў новых лідэраў, сярод якіх былі Алесь Прушынскі (Алесь Гарун), Аркадзь Смоліч, Язэп Варонка, Язэп Дыла, Браніслаў Тарашкевіч, Алесь Чарвякоў, Палута Бадунова, Зміцер Жылуновіч, Сымон Рак-Міхайлоўскі...

Грамада стала адным з галоўных арганізатараў Першага Усебеларускага з'езда ў снежні 1917 года. Пасля разгону гэтага прадстаўнічага кангрэса бальшавікамі частка сяброў БСГ, якая трымалася нацыянальна-дэмакратычнай арыентацыі, узяла курс на стварэнне незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі.

**У.А.**

## Травень 1906. Заснавана першае беларускае легальнае выдавецтва «Загляне сонца і ў наша ваконца»

Ініцыятарам стварэння на кааператыўных асновах гэтай выдавецкай суполкі лічыцца выкладчык Пецярбургскага універсітэта Браніслаў Эпімах-Шыпіла, вакол якога аб'ядналася група беларускіх інтэлігентаў, што жылі ў сталіцы імперыі. Узначаліў і напачатку фінансаваў таварыства адзін з заснавальнікаў беларускага нацыянальна-вызвольнага руху Вацлаў Іваноўскі. Першы параграф статута суполкі сведчыў пра яе асветніцкія мэты: «Таварыства ўстанаўляецца для таго, каб друкаваць і шырыць памеж людзёў ксёнжкі беларускія і ўсё, што датычэ Беларусі».

Сваю дзейнасць суполка распачала з выдання беларускіх падручнікаў. Першай выпушчанай у свет кнігаю стаў «Беларускі лемантар», аўтарам якога быў Карусь Каганец. Следам за ім выйшла складзенае Цёткай «Першае чытанне для дзетак беларусаў». Гэтыя кніжкі былі выдрукаваныя спачатку лацінкаю, а потым, паўторна, кірыліцай.

У 1906 годзе ў выдавецтве выходзяць першыя беларускамоўныя паштоўкі, што ў тагачасных аб'явах называюцца пісулькамі. Гэта былі партрэты пісьменнікаў, сялянскія тыпы, краявіды. Сярод першых дзесяці паштовак — «Дом Тадэвуша Касцюшкі ў Марачоўшчыне», «Мужыкі з-пад Слуцка», «Парабковая дворная хата», «Дудар беларускі», «Францішак Багушэвіч (М. Бурачок) — пясняр беларускі», «Вінцук Марцінкевіч — пясняр беларускі», «Янка Лучына — пясняр беларускі». Пазней суполка выпусціла яшчэ болей за дзесятак «пісулек»: «Беларускае евангелле XV в.», «Апостал Скарыны», «Беларуская біблія XVI в.»...

Дзякуючы намаганням таварыства пабачылі свет першыя кніжкі Янкі Купалы «Жалейка», Змітрака Бядулі «Абразкі», Цішкі Гартнага «Песні», а потым Купалавы зборнікі «Сон на кургане» і «Шляхам жыцця». За 1907—1908 гады была выдадзеная серыя «Беларускія песняры» з шасці тамоў, якая пачыналася з «Дудкі беларускай» Францішка Багушэвіча. Апрача «Дудкі» чытачы атрымалі ягоны ж «Смык беларускі», а таксама «Пана Тадэвуша» А. Міцкевіча, «Гапона», «Вечарніцы», «Шчароўскія дажынкі» і «Купалу» Дуніна-Марцінкевіча. Кожны том меў наклад 4300 асобнікаў.

Распачатае суполкай сістэматычнае выданне беларускіх кніг прыцягнула ўвагу царскай цэнзуры. Старшыня Віленскага часовага камітэта па справах друку ў верасні 1908 года паслаў калегам з адлаведнай сталічнай установы запыт-данос пра магчымасць «допущения к обращению» «Жалейкі», «Дудкі» і «Смыка». Пецярбургскай судовай палаце было прапанавана кнігі гэтыя арыштаваць, а супроць аўтараў пачаць судовую справу. Арышт з «Жалейкі» палата зняла, а супроць нябожчыка Мацея Бурачка рыхтаваўся працэс.

*«Другое чытанне для дзяцей беларусаў».*




У Вільні, Менску, Пецярбурзе, Полацку, Слуцку ды іншых гарадах нацыянальная інтэлігенцыя стварала тады шматлікія музычна-драматычныя гурткі, якія ладзілі гэтак званыя «беларускія вечары». Дзеля патрэбаў гэтых адраджэнскіх гурткоў таварыства выпусціла дзесяць перакладных і арыгінальных драматычных твораў, сярод якіх «Модны шляхцюк» Каруся Каганца, «У зімовы вечар» Элізы Ажэшкі, «Мядзведзь» Чэхава ды іншыя. Выдавецтва лічыла сваёй задачаю і выданне беларускіх песняў. З Пецярбурга па Беларусі быў разасланы зварот такога зместу: «Выдавецкая суполка... вельмі просіць, каб тыя, што знаюць музыку і могуць запісваць матывы песняў з голасу вясковых людзей, памаглі сабраць ноты ўсіх беларускіх песняў і выдаць. З прысланых матываў некаторыя суполка пастаралася б перавярнуць на хор, а некаторыя прыспасобіць да спеву з акампанементам... Усякі, хто прылучыцца да гэтай працы, атрымаець без платы пекнае выданне ўсіх нот беларускіх песняў з вялікім падзякаваннем».

Таварыства «Загляне сонца і ў наша ваконца» зрабіла спробу стварыць беларускі літаратурна-грамадскі часопіс, якім, па сутнасці, стаў альманах «Маладая Беларусь». Нягледзячы на тое, што выйшла ўсяго тры нумары, альманах пакінуў у гісторыі нашага прыгожага пісьменства прыкметны след. На ягоных старонках упершыню з'явіліся драматычная паэма Янкі Купалы «Сон на кургане», шмат якія апавяданні Цёткі і Змітрака Бядулі, вершы Канстанцыі Буйлы, Янкі Журбы, Цішкі Гартнага...

Пачатак Першай сусветнай вайны спыніў дзейнасць першага беларускага выдавецтва. За час свайго існавання яно выдала 38 кніг агульным накладам больш за 100 тысяч асобнікаў. Гэта быў вялікі даробак у стварэнне падмурка нацыянальнага адраджэння.

**У.А.**

# Ладья викингов

*Через пару десятков лет Норвегия может стать самой богатой в мире страной — благодаря притоку нефте- и газодолларов*

На одной популярной карикатуре норвежцы изображены плотно лежащими в банке из-под сардин, куда вместо оливкового масла налита нефть. Подпись гласит: «Норвежцы в собственном соку».

Однако сколько бы ни язвили соседи, норвежцы чувствуют себя дома совсем неплохо. Недавний опрос показал, что среди четырех миллионов граждан Норвегии только пять процентов скептически относятся к будущему страны и своему собственному — это самый высокий показатель национального оптимизма среди 47 развитых стран мира, а экономические прогнозы сулят Норвегии лет через двадцать статус самой богатой страны мира. Этому способствует несколько факторов: отсутствие государственного долга — несчастья всех развитых стран, чисто символическая 4-процентная безработица, ежегодный рост ВНП на четыре с половиной процента плюс миллиарды и миллиарды долларов ежегодных доходов от продажи нефти и газа, добываемого на шельфе Северного моря.

— Мы планировали получить 11 миллиардов норвежских крон в 1996 году от нефти и газа, а поступило 45 миллиардов. Мы рассчитываем на 250 миллиардов в 2000 году, но вполне вероятно, что может поступить раза в четыре больше , — говорит министр финансов Енс Столтенберг, озабоченный не совсем обычной для его зарубежных коллег проблемой: как распорядиться немыслимыми бюджетными поступлениями.

«Жизнь играет», говорят норвежцы, признающиеся, что они до сих пор чувствуют легкое головокружение от свалившегося на их голову богатства.

## «Мы тонем в деньгах»

Первые нефтяные и газовые миллиарды хлынули в страну в 1971 году, но норвежцы только сейчас по настоящему осознали, что их богатство — не сон. Психологическое состояние нации напоминает чувства бедняка, который в середине жизни получил известие, что унаследовал миллионное состояние, но не знает, что с этими деньгами делать.

Сегодняшний Осло — это лес строительных кранов, хорошие здания сносятся, чтобы уступить место еще лучшим, повсюду стоят мусорные контейнеры с великолепным строительным материалом.

Пиком норвежского строительного бума стало сооружение нового международного аэропорта Гардемуен, который вступит в действие уже в следующем году. Стоимость проекта — более трех миллиардов долларов. Все характеристики будущего «дворца воздухоплавания» — с приставкой «сверх»: сверхсовременный, сверхудобный, сверхбезопасный. Четырехмиллионная страна на окраине Европы собирается принимать более двух миллионов авиапассажиров в год.

Маленькая Норвегия всасывает сегодня, как пылесос, тысячи специалистов — от медсестер и учителей до строительных рабочих и программистов. Государственные вербовщики и представители частных фирм объездили всю Европу. Везде идут сокращения, и только Норвегия бьет рекорд за рекордом: 65 тысяч новых рабочих мест было создано в прошлом году (1.625 на сто тысяч населения!). Англичане качают нефть в море, шведские строители возводят виллы, а норвежцы заседают в конторах.

Перефразируя Козьму Пруткова, лозунг сегодняшней Норвегии можно сформулировать так: хочешь быть богатым, будь им. В городе Тромсё — «нефтяной столице» Норвегии — живет 50-летний мужичок по имени Бьёрн, дальний родственник моих шведских знакомых. Этот Бьёрн, что в переводе значит «медведь», никакими талантами, по их утверждению, не отличался, зимой в полном соответствии со своим именем в основном спал, а лапу не сосал только потому, что получал пособие по безработице. Этим летом он приехал в Стокгольм на новом «Порше». Он трижды в день ел в роскошном кафе «Опера» и чуть не каждый день ходил в парк аттракционов «Грена-Лунд», чтобы добрать то, что судьба недодала ему в детстве. В общем, недотепа Бьёрн стал богат, и история его богатства типична для многих норвежцев.

Счастливчика Бьёрна, убивавшего свои пустые безработные дни рыбалкой с катера, вдруг, как и многих, «окатило» из нефтяного фонтана. Хотя Тромсё и нефтяная столица, но особых развлечений ни для местных жителей, ни для многочисленных иностранных специалистов там нет. В один прекрасный день Бьёрну предложили свозить на рыбалку группу английских буровых инженеров. Через месяц он уже назывался «рыболовным гидом», а среди его клиентов с раздутыми от нефтяных денег карманами преобладали норвежцы. Словом, за три года, не изменив ни своим привычкам, ни образу жизни, Бьёрн разбогател: он стал владельцем преуспевающей фирмы, где рыболовный извоз был только частью предлагавшегося сервиса.

— В Норвегии все буквально сошли с ума. Сегодня только идиоты не зарабатывают деньги, — комментирует еще один новоиспеченный миллионер Ханс Геелмуден. По его мнению, чтобы разбогатеть, достаточно проявить минимум инициативы. Схема проста: взять займ в банке и вложить деньги в акции — их курс на бирже в Осло растет в среднем на 30 процентов в год, в то время как банковский займ практически ничего не стоит.

— Мы не привыкли к таким суммам и, если честно, просто тонем в деньгах, — так объясняет причины неслыханной банковской щедрости другой новоявленный миллионер — Трюгве Хегнер. По его словам, в Норвегии прежде никогда не водилось таких денег, а финансисты страны просто не умеют распоряжаться своими капиталами.

В один голос все мои норвежские собеседники утверждают: хлопот с открытием нефти и газа у Норвегии прибавилось.

## Горе от богатства

Оказывается, у правительства страны, купающейся в деньгах, задачи едва ли не сложнее, чем у их коллег в государствах, чьи бюджеты зияют дырами.

Все началось в 1969 году, когда британская геолого-разведочная фирма «Филипс» обнаружила первую нефть на норвежском шельфе. Тогда же правительство Норвегии и приняло принципиальное решение — не продавать запасы нефти и газа в частные руки. Поэтому сегодняшние миллиарды принадлежат всем норвежцам: нефтедобыча здесь — своего рода «семейное дело», общенациональное предприятие.

Это не пустые слова. Страна маленькая, «прозрачная», к демократии здесь приучены еще со времен викингов. Любые попытки властей играть в свои игры придется объяснять избирателям в первом же продуктовом магазине Осло, куда вполне может заехать на велосипеде премьер-министр или министр финансов. Европейская глубинка, одним словом, и нравы тут царят патриархальные, артельные. Понимая это, правительство «законсервировало» часть поступлений от нефтедобычи в специальном «нефтяном» фонде, который сегодня превышает 100 миллиардов норвежских крон, а к 2001 году составит, как предполагается, 400 миллиардов.

За этой государственной кубышкой зорко следят четыре миллиона норвежцев, и простыми увещеваниями, что деньги, мол, в надежных руках, здесь не отделаешься: все больше и больше денег приходится закачивать в социальную сферу. Но как объяснить народу, требующему своей доли нефтяного пирога, что нельзя бесконечно тратиться на социальные нужды? Социал-демократическое правительство Норвегии во главе с Турбьёрном Ягландом не может без конца играть роль строгого взрослого, отгоняющего детей от праздничного стола с конфетами: подождите, мол, еще рано! В результате складывается не совсем обычная ситуация, когда благосостояние норвежцев растет, а правительство тем не менее теряет популярность. Сегодня правящих социал-демократов поддерживают только 28 процентов населения. Для Норвегии — страны, где 50 процентов симпатий к левым считались нормой, — это невиданное низкая цифра.

Чтобы удержаться у власти, начиная с 70-х годов социал-демократам пришлось пустить на текущие нужды уже около 600 миллиардов нефтяных крон, что, безусловно, раскрутило спираль инфляции: рост зарплат — рост цен — рост зарплат. Нефтяные деньги сделали продукцию прочих экспортных отраслей Норвегии дорогой и, следовательно, неконкурентоспособной. «Мы сегодня меньше индустриализированы, чем 20—30 лет назад», — говорит профессор социологии университета Осло Томас Эрикен.

Социологи и интеллектуалы предупреждают и о более абстрактной опасности, подстерегающей Норвегию в будущем. Это ощущение самодостаточности, растущее нежелание вступать в контакт с окружающим миром. Наиболее очевидное проявление этого стремления к самоизоляции — два референдума в 1972 и 1994 годах, когда страна дружно голосовала против вступления в ЕС.

Профессор Эриксен, написавший книгу «Типично норвежское», видит причины для тревоги и в повальном увлечении прошлым, когда современная Норвегия ищет свои корни в некоей идеализированной крестьянской стране, хотя только ничтожная часть норвежцев была заемледельцами.

Косвенным подтверждением точки зрения ученого может служить неудачный опыт шведского телемагната Яна Стеймана, который открыл новый телеканал, транслирующий на Норвегию обычный во всем мире джентльменский набор из американских художественных фильмов и развлекательных программ, которые для всей Европы штампует Голландия. «Здесь не работают обычные законы телевидения, — жалуется сегодня медиамагнат. — Подобного нет ни в одной другой стране. Норвежцы хотят смотреть программы только о себе и своей стране. Они ею так гордятся!» В самом деле, норвежцы выключали боевики и стриптиз-шоу на самом интересном месте, как только на другой программе появлялась картинка родных фиордов, которые можно увидеть и из окна.

## Экологически чистое электричество

Сегодня в Норвегии все чаще задумываются о тех временах, когда большое нефтегазовое приключение кончится. А это случится довольно скоро. Добыча нефти и газа достигнет кульминации в 2001 году, к 2020 году сократится ровно наполовину, после чего нефти хватит еще лет на двадцать, а газа — на сотню. Предполагается, что самое крупное газовое месторождение Норвегии «Тролль», отбивающее у российского «Газпрома» традиционные рынки в Германии и Восточной Европе, истощится и того раньше — через 50 лет.

Вариантов ответа на вопрос «Что делать?» много, но в главном полемисты едины: надо спасать экспортную индустрию, развивать новые ресурсосберегающие технологии XXI века. Один из таких проектов — производство пластикового городского электромобиля *Pivco*. Первые пять тысяч этих машин, способных без подзарядки проехать сто двадцать километров, сойдут с конвейера уже в этом году.

Но главное, чем норвежцы намерены удивить мир в грядущем столетии, — это прорыв в традиционной для страны лесной индустрии. Десятки тысяч владельцев лесных участков совместно с предприятиями лесной промышленности включились в проект «Живой лес», предполагающий ведение лесного хозяйства в соответствии с современными представлениями об экологии. Уже несколько десятков лет в Норвегии высаживается больше леса, чем вырубается, но это программа «начальной школы», а сегодня крестьяне проходят свои лесные университеты.

— Эти больные деревья я оставил на вырубке специально. В них — колонии паразитов, которые надо сохранить для птиц. А вот та большая ель оставлена потому, что это «вечное дерево», оно должно умереть своей смертью, так нужно для сохранения видового многообразия на участке. А на этом пне — гнездо. Поэтому тоже пусть стоит, — Гуннар Махлум с гордостью водит меня по своему лесному участку, демонстрируя недюжинные знания в экологии. — Только в России да еще в Канаде остались «вечные» леса. Сибирь — это огромный банк, где можно было бы снимать гигантские проценты, не трогая основного капитала, только русские этого не умеют.

Ферма находится в семейном владении с 1575 года, нынешние хозяева — Гуннара и его жена Ингеборг пятнадцатое поколение крестьян Махлум. Не всякое аристократическое семейство «континентальной» Ев-

*Королевская чета предпочитает совершать путешествия на современном лайнере, но подданные, как и во времена викингов, сопровождают их в старинных ладьях.*



# в океане нефти

ропы может так далеко проследить свою родословную, а в Норвегии крестьянскими династиями никого не удивишь. В стране, где никогда не было аристократии, такие семейства, как Махлум, в сознании соотечественников играют ту же роль, что лорды в Великобритании, воплощая собой связь времен и поколений.

Гуннар и Ингеборг живут в простом крестьянском доме — широкие доски низких потолков едва не задевают голову рослой хозяйки, вдоль стен торжественно выстроились в ряд грубо тесанные буфеты, а раскрашенные наивными узорами: XVII век, XVIII век. Буфеты, приданое прапрабабушки Гуннара, — это норвежский ответ на портретные галереи предков в замках европейской аристократии. Впрочем, все в доме — от массивной старинной мебели до изящных современных чайных ложек с клеймами *Made in Norway* — гимн национальной промышленности. «Мы стараемся покупать только свое, новрежское», — не забывала напоминать мне хозяйка.

Этот «бытовой» срез объясняет многое во взглядах потомков викингов на экономику. Лес воспринимается многими в стране не только как перспективная область экономики, но и как что-то «настоящее», отвечающее самому духу нации, что можно противопоставить стремительной нефтяной авантюре.

Не случайно в интерьерах будущих «ворот в Норвегию», аэропорта Гардемуен, нет и намека на нефтяные вышки и прочие чудеса шельфа, зато дерево представлено во всех комбинациях, чтобы передать, как гласит рекламный проспект, «дух Норвегии».

— Был когда-то железный век, XX век называют веком нефти. А теперь Норвегия покажет миру, что грядет век деревянный, — полушутя-полусерьезно говорил мне энтузиаст конструкций из дерева розовощекий молодой парень Ларш Гротта, уже прославившийся деревянными конструкциями, по крепости и пожароустойчивости превосходящими традиционные стальные. В здании нового чудо-аэропорта в качестве несущих тоже использованы клееные деревянные балки длиной 136 метров. Эта конструкция, любят утверждать норвежские специалисты, столь же прочна, как стальная, и значительно более безопасна с пожарной точки зрения.

Те, кто побывал на «заднем дворе» Норвегии, в Северном море, часто сравнивают нефтяные вышки с рождественскими елками — сияющие огнями на фоне ночного неба, эти вышки создают сказочное впечатление. Кажется, волшебство может развеяться в любую минуту, и Норвегию снова будут омывать черные волны, скупо освещенные звездами. Может быть, именно поэтому, запивая шампанским отварную картошку, потомки викингов отдают предпочтение тем экономическим чудесам, которые можно передать по наследству...

**Алексей СМИРНОВ**

*Итоги*

